# Тыднёвік Магілёўскі




№ 16 (57) 22 красавіка 1999 г. Кошт свабодны

## Эмоцыі вычарпаныя. Праблемы засталіся



Практычна адпачатку самой гэтай зьявы – чарнобыльскай трагэдыі – «эфэктыўна» эксплютаваўся эмацыйны бок праблемы. Зразумела, найбольш пасьпяхова рабілася гэта журналістамі. Ім напачатку нядрэнна спрыялі і «прыстаўленыя» да змаганьня з наследкамі аварыі афіцыйныя дзяржаўныя асобы. Перыяд канцэптуальнай гаворкі на чарнобыльскую тэму, распачаты Беларускім Народным Фронтам, працягваўся нядоўга. Выкінутыя з парлямэнта дэмакратычныя дэпутаты пазбавіліся магчымасьцяў рэальна ўзьнімаць, а тым больш вырашаць праблемы, якія паўсталі перад дзяржавай пасьля 26 красавіка 1986 года. Ня ўражвае цяпер на гэтую тэму і «эмацыйная публіцыстыка»: народ наплакаўся, наспачуваўся самому сабе...

Вось ужо колькі гадоў, як чарнобыльскі тэмат прыватызаваны ўладай. Спачатку тое быў урад Кебіча, цяпер «у зоне» аднаасобна ўладарыць прэзыдэнт. Даўно суцішыліся гаворкі на тэму «дапушчальных» парогаў жыцьця на забруджаных тэрыторыях. Спынілася і без таго няшпаркае адсяленьне людзей зь небясьпечных тэрыторыяў, сёньня кожнаму, нават дзяцям, «дазволена» жыць там, дзе хочаш. Зьвернутая заходняя гуманітарная дапамога, якая йшла праз грамадзкія беларускія арганізацыі. Мець справу з уладай замежныя гуманітарныя партнэры адмовіліся, як толькі паспыталі памежныя і мытныя перашкоды, якія стварылі для іх прэзыдэнцкія Ўказы і ўрадавыя пастановы. Рэдкія краіны (іх стала меней па той-жа прычыне) працягваюць запрашаць да сябе на аздараўленьне «чарнобыльскіх» дзяцей. І толькі адміністрацыі тэрыторыяў, якія ўваходзяць у зону, выйгралі: замест работнікаў сталі пакорлівымі прасіцелямі й таму карыстаюцца з боку высокай улады «разуменьнем» сваіх цяжкасьцяў, а значыць, дараваньнем ад яе сваёй ляноты, абыякавасьці, некампэтэнтнасьці.

...На эмацыйным узроўні сёньня на чарнобыльскую тэму не пагаворыш. Яна вычарпаная. Праблема-ж нікуды не зьнікла. У пераддзень чарговай гадавіны Чарнобыльскай бяды, якая «усім комплексам» сваіх праблемаў нанесла, найперш, непапраўны ўрон народнай маралі (яшчэ адна, дарэчы, прычына эмацыйнай глухаты), рэдакцыя «ТМ» вырашыла ўзгадаць пра яе сухой мовай лічбаў, якія здолела дастаць (статыстычная таямніца чарнобыльскай тэмы – яшчэ адно наступства яе дзяржаўнай «прыватызацыі»).

Вось што мы ведаем пра свой рэгіён на сёньня:

*– на тэрыторыі, якая недапушчальная для жыцьця, у вобласьці пражывае 185 тысячаў чалавек*

*– з 1,8 мільёнаў гэктараў сельгасугодзьдзяў, якія значна забруджаныя радыёнуклідамі, 1,4 мільёна гэктараў выкарыстоўваюцца ў земляробчай вытворчасьці*

*– вобласьць на першым месцы ў краіне па захворваемасьці на сухоты як сярод дарослых, так і дзяцей*

...У гадавіну чарнобыльскай катастрофы абыйдземся без эмоцыяў. Успомнім. І памаўчым.

*Рэдакцыя «ТМ»*

*P.S. Сёлета магілёўскія дэмакратычныя арганізацыі не замаўлялі ніякіх грамадзкіх акцыяў з нагоды гадавіны Чарнобыльскай трагедыі. Мяркуецца, што прадстаўнікі іх прымуць удзел у шэсьці і маніфэстацыі, якія пройдуць 25 красавіка ў сталіцы Беларусі.*




## Аднаго і таго-ж чалавека судзяць за выбарчую актыўнасьць і за выбарчы байкот

У Глуску на кватэры Генадзя Янушэўскага, аднаго з чальцоў раённай камісіі па выбарах прэзыдэнта, міліцыя правяла ператрус, падчас якога шукала матэрыялы, што маюць дачыненьне да дзейнасьці камісіі. Санкцыю на ператрус даў раённы пракурор І., як патлумачылі міліцыянты, яны яшчэ наведаюць кватэры ўсіх актывістаў выбарчай кампаніі. Сьпіс усіх сябраў камісіі ў іх ёсьць.

Першая міліцэйская вылазка «здабычы» дала няшмат: яны знайшлі некалькі чыстых бланкаў падпісных лістоў і столькі-ж старых улётак... Магчыма, гэта паўплывала на ранейшыя намеры мясцовых «пінкертонаў», бо болей ні да кога яны пакуль не завіталі.

А ў пятніцу прайшоў другі этап суда над Ігарам Кірыным, які ў Глуску ачольвае раённую камісію па выбарах прэзыдэнта. Але «судзяць» яго не за гэта. Ініцыятарам разгляду справы стаўся пракурор раёна, які ўгледзеў у дзеяньнях сп. Кірына, як на дзіва, «заклікі да байкоту выбараў...» (гаворка ідзе пра мясцовыя выбары). Паводле меркаваньня пракурора, гэта вынікае з падпісаньня Ігарам Кірыным Заявы грамадзкіх арганізацыяў, пра якую «ТМ» згадваў у папярэднім нумары. Першы раз суд адкладваўся, бо сп. Ігар запрасіў адваката. Апэратыўна прыехаць у Глуск ніхто з праваабаронцаў ня здолеў. Аднак слушных парадаў колькі далі, зь якіх І.Кірын і скарыстаўся. Цяпер перапынак у «слуханьні» зьвязаны з тым, што суд чакае дастаўкі з рэдакцыі «Народнай волі» копію арыгіналу вышэйзгаданай Заявы зь непасрэднымі подпісамі.

*Уласная інфармацыя*

## Зварот Праваабарончага Цэнтру «Вясна-96» да грамадзянаў Беларусі

Нашая арганізацыя вядзе маніторынг парушэньняў Канстытуцыі і законаў падчас выбараў Прэзыдэнта Беларусі, прызначаных на 16 траўня. Нашая мэта – абарона вашых правоў!

Просім усіх, чые правы абіраць і быць абраным былі парушаныя, каго за ўдзел у выбарчай кампаніі выклікалі ў міліцыю, суд, пракуратуру, КГБ ці пагражалі, паведамляць пра гэта ў нашую арганізацыю на адрэсу: 220007, Менск, паштовая скрыня 88.

З фактамі парушэньняў Канстытуцыі і законаў будуць азнаёмленыя кіраўнікі дэмакратычных дзяржаваў, міжнародных праваабарончых арганізацыяў, а таксама ААН і АБСЭ.

*Старшыня ПЦ «Вясна-96» Алесь БЯЛЯЦКІ*

БАЛКАНЫ: ДЗЬВЕ ВАЙНЫ

## Цэлы народ падвергнуты выгнаньню. Паратунак яму дае вольны сьвет

З аднаго боку – вачыма расейскіх журналістаў, больш падобных, праўда, гэтымі днямі на прапагандыстаў – мы, як быццам, нядрэнна ведаем сёньняшнюю балканскую вайну. «Натаўскія самалёты скінулі бомбы... на горад... прадпрыемства...- мост...». «Патрыярх Алексій адбыў на Балканы з міратворчай місіяй». «Мілошавіч сустрэўся з Руговам...». «У ходзе візыты Прымакова было прапанавана...»

А што робіцца там, у Касоўскім краі, дзеля выратаваньня насельніцтва якога ад сэрбскага генацыду ваенная апэрацыя NATO і пачалася? Пра гэта можна даznaцца, слухаючы толькі замежныя радыёстанцыі альбо праглядаючы адпаведныя сайты ў Інтэрнэце. Для тых, хто зусім ня ведае, пра што гаворка, паведамляем (са спасылкай на аб'ектыўныя і незалежныя крыніцы інфармацыі): у Касове – генацыд, зьнішчэньне цэлага народа, выгнаньне яго з тэрыторыі краю, забойствы мужчынаў і зьдзекі над жанчынамі, старымі і дзецьмі, там – ужываньне мэтадаў, вядомых сьвету з часоў сталінска-гітлераўскай палітыкі ў адносінах да «дрэнных» народаў.

*Гэта ня можа не шакаваць сучасныя дэмакратычныя грамадзтвы. Адпаведна й сусьветная супольнасьць ставіцца да бялградзкага рэжыму. «ТМ» вырашыў пазнаёміць чытачоў з рэакцыяй краіны, якая знаходзіцца далёка ад канфлікту і не бярэ непасрэднага ўдзелу ў вайсковых і дыпляматычных дзеяньнях.*



– 13 красавіка ў Тэль-Авіве ў аэрапорце «Бэн Гурыён» прызямліўся самалёт кампаніі ISRAAIR, на якім знаходзіліся 104 уцекачы з Касова. Іх сустракалі прадстаўнікі ўраду, Каралева прыгажосьці Ізраілю, журналісты, навучэнцы, сотні людзей з кветкамі і падарункамі. Але бальшыня тых, хто прыбыў, былі настолькі змучаныя, што марылі толькі аб адным: хутчэй дайсьці да таго месца, якое цяпер будзе іхным домам. Пры гэтым шмат хто зь іх да поўнага зьдзіўленьня сустракаючых пыталіся: «Нас усіх зараз адправяць на тэрыторыі?».. Паехалі альбанскія ўцекачы, канешне, не на «тэрыторыі», а ў вадзін з самых багатых кібуцаў на поўначы краіны – Магам-Міхаэль – дзе кожную сям'ю ўжо чакаў асобны дом. Толькі адна сям'я пакуль што ў Магам-Міхаэль не паехала. Ламію Яха, ейнага мужа і двух маленькіх дзетак са сьлязьмі ў вачох сустракаў Двор Быковіч – чалавек, якога яна ніколі ў жыцьці ня бачыла. У часе Другое Сусьветнае вайны бацькі Ламі выратавалі ад нацыстаў маці Быковіча, і на працягу доўгага часу хавалі яе. Ані выратавальнікі, ані тая, якую яны выратавалі, да сёньняшняга спатканьня не дажылі. А вось іхныя дзеці абдымаліся на «Бэн Гурыёне».

Уцекачоў сустракалі й прадстаўнікі камітэту ахвяраў Галакоста, якія першымі распачалі збор сродкаў на карысьць альбанскіх уцекачоў. Зрэшты, сёньня ўжо цяжка ўспомніць, як гэта пачалося, бо на працягу многіх дзён у пунктах збору дапамогі стаяць чэргі. Людзі нясуць палаткі, цёплыя коўдры, грошы, кансэрвы, адзеньне... Ізраіль просіць аб тым, каб на мяжы з Макэдоніяй была павялічаная колькасьць ягоных вайсковых лекараў, матывуючы гэта тым, што ў іх куды большы досьвед дапамогі людзям у палявых умовах, чымсьці ў іхных калегаў зь іншых краінаў. Некалькі дзён таму ў ізраільскі палявы шпіталь у Макэдоніі была дастаўленая жанчына, у якой пачаліся датэрміновыя роды. Лекары выратавалі маці зь дзіцём, а бацькі вырашылі назваць дзяўчынку Сарай у гонар маці габрэйскага народу. Відаць, хутка маленькая альбанка Сара прыедзе ў Ізраіль.

Увечары, у памяць ахвяраў Галакоста, у Ерусаліме адбылася жалобная цырымонія. Над горадам запалілі шэсьць вялічэзных факелаў як напамін пра шэсьць мільёнаў загінуўшых. Прэм'ер-міністар Б.Нетаньягу, выступаючы, адзначыў: «Мы, габрэі, павінны быць асабліва чульлівымі да пакутаў іншых народаў. Мы перажылі Галакост і таму абавязаны прыходзіць на дапамогу тым, хто зьведвае выгнаньне й вынішчэньне».

На ўсім шляху з аэрапорта ў кібуц Магам-Міхаэль уцекачоў суправаджалі плякаты «Сардэчна запрашаем дадому».

*Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК друку й пошты (па матэрыялах радыё Свабода)*

## Як абмінуць пагрозу закрыцьця

***Днямі ў Менску адбылося чарговае паседжаньне Рабочай групы (РГ) Асамблеі недзяржаўных арганізацыяў Беларусі.***

*Да прыняцьця быў прапанаваны праект заявы «Абаронім дэмакратычную грамадзянскую супольнасьць у Беларусі». Пасьля дыскусіі заява была прынятая. У ёй выказваецца пратэст супраць захадаў рэжыму зьнішчыць у Беларусі грамадзкі сэктар, а таксама зварот да міжнароднае супольнасьці адпаведнага зьместу.*

*Старшыня РГ Асамблеі Вінцук Вячорка адзначыў, што Дэкрэт №2 прэзыдэнта А.Лукашэнкі патрабуе правесьці перарэгістрацыю грамадзкіх аб'яднаньняў «у сьціслы тэрмін»: да 1 ліпеня. Да таго-ж рашэньне прымацца будзе ня органамі юстыцыі, а невядомай камісіяй з шырокімі паўнамоцтвамі «не пушчаць». Усьведамленьне таго, што мэтаю рэжыму ёсьць перавод пэўных арганізацыяў на нелегальнае становішча, вымагае ад сяброў РГ выпрацоўкі канкрэтовых рашэньняў, парадаў альбо рэцэптаў дзеяньня для недзяржаўных арганізацыяў (НА). Дарэчы, Выканаўчым бюро Асамблеі была праведзеная падрыхтоўчая праца ў гэтым кірунку. Сфармаваныя тры групы юрыстаў, якія будуць кансультаваць прадстаўнікоў НА па пытаньнях перарэгістрацыі. Групы мабільныя, таму вырашана 24-25 красавіка наладзіць іх працу ў рэгіёнах. Прадстаўнікі з раёнаў могуць прыехаць у абласны цэнтар каб безпасярэдне атрымаць неабходныя рэкамэндацыі.*

*Была заслуханая справаздача дырэктара Выканаўчага бюро Асамблеі Уладзімера Роўды, які паведаміў пра стан справаў па выхаду бюлетэню Асамблеі, пра хаду кампаніі SOS, спыніўся на бягучых пытаньнях.*

*РГ падтрымала заяву пратэсту Задзіночаньня беларускіх студэнтаў супраць прымусовага разьмеркаваньня матурыстаў пасьля заканчэньня ВНУ.*

**P.S. Інфармацыю аб пачатку кансультацыяў юрыстаў па пытаньнях перарэгістрацыі ў Магілёве можна атрымаць па тэлефонах: 25-64-73, 22-34-98, 22-97-82.**

***Уласная інфармацыя***

## У гасьцях у князёў і рыцараў

Суботнім днём прадстаўнікі магілёўскага згуртаваньня моладзі «Патрыёты Бацькаўшчыны. Рух у Эўропу» на запрашэньне Наваполацкага аб'яднаньня «Княжыч» наведалі Полацак. Была наладжаная экскурсія па гораду, сустрэча зь сябрамі «Княжыча» й невялічкі імправізаваны канцэрт на старажытнай дудзе, якую хлопцы з «Княжыча» зрабілі самі, дарэчы, як і многія іншыя беларускія музычныя інструмэнты. Мясцовыя дзяўчаты прасьпявалі народныя песьні.

Да ўсяго гэтага дадалося знаёмства з даволі вядомым рыцарскім клюбам «Жалезны воўк». Наваполацкія рыцары паказалі нам сваю майстэрню і фотаархіў. Зараз яны рыхтуюцца да пастаноўкі спэктаклю. Па дарозе дадому магілёўцы наведалі Віцебск ды Оршу. Але аб гэтым чытайце ў наступных нумарах «ТМ».

***Дзяніс НОВІКАЎ***

РЭПЛІКА «ТМ»

## Два засмучальныя моманты

Днямі ў «Магілёўскіх ведамасцях» быў надрукаваны ліст прарэктара магілёўскага Ўнівэрсітэта Івана Мартынава. Аб ягоным ідэалягічным патасе можна меркаваць ужо па загалоўку, які да ліста паставіла альбо рэдакцыя, альбо аўтар: «Югославы! Наши сердца с вами!»...

У Балканскім ваенным канфлікце, як вядома, ня ўсе знаходзяцца на баку шматпакутнага альбанскага насельніцтва сэрбскай правінцыі Касова. Рознагалосьсі выкліканыя найперш палітычнымі прыхільнасьцямі розных краінаў і, адпаведна, людзей. Аднак-жа найбольш ваяўнічае непрыняцьце ваеннага пакараньня нацыяналістычна-камуністычнага рэжыму Мілошавіча, які не паўшоў і ня йдзе на пошук палітычнага ўрэгуляваньня этнічна-дзяржаўнай праблемы, дэманструюць дзяржаўныя колы Расеі і Беларусі. І Масква і Менск маюць кожны сваю і разам агульныя ўнутраныя прычыны для такіх паводзінаў. Сярод-жа «простых людзей» абодвух краінаў пануе на гэты конт калі не абыякавасьць, дык здаровы сэнс: разьбяруцца бяз нас! Але так думаюць, мяркуючы па публікацыі «МВ», ня ўсе. Як ужо сказана вышэй, няма нічога дзіўнага ў наяўнасьці розных меркаваньняў. Але інтанацыя прарэктарскага ліста ня можа не засмучаць. Чалавек, пэўна, зь нялёгкім уласным лёсам, на якім адбіліся пакуты апошняй вайны – малалетні вязень фашысцкага канцлягеру – не спачувае пакутнікам і ахвярам вайны бягучай, а ледзь не заклікае да яе працягненьня. Падаецца, што браты-югаславы (цікава, хто маецца на ўвазе, бо югаславы – гэта і сэрбы, і чарнагорцы, і касоўскія альбанцы, а да нядаўняга часу імі былі харваты, басьнійцы і г.д.) цікавыя аўтару «патрыятычнага ліста» толькі як нагода для аб'яўленьня вайны беларускай апазыцыі. Ён узрушаны «деформированием совести» у апазыцыі, якая, па ягоных словах, «уже зовёт танки НАТО на нашу землю». Няма для яго і сакрэтаў наконт сапраўднага намеру Захаду: «бомбят Югославию, а метят в Россию и Беларусь». Іван Мартынаў заклікае, «по поручению Могилевской областной Ассоциации малолетних узников фашистской неволи, насчитывающей в своих рядах свыше двух тысяч членов», узьняць голас пратэсту, а таксама ў фонд дапамогі югаслаўскаму народу пералічыць аднадзённы заробак «всех белорусов». (Дарэчы, калі гаворка ідзе пра альбанцаў, якіх Мілошавіч выкідвае з краю, рэдакцыя «ТМ» ня супраць, калі толькі сп. Мартынаў вызнае іх за югаславаў).

Аднак ёсьць у нас і другое засмучэньне. Ці сапраўды ўсе дзьве тысячы былых малалетніх вязьняў фашызму думаюць таксама як аўтар ліста, і ці сапраўды яны яму давалі такое «поручение». І яшчэ: ці дапушчальна займацца выхаваўчай працай у студэнцкім асяродзьдзі чалавеку, які такім адкрытым чынам займаецца палітыкай і сам настолькі «однозначно» палітызаваны?..

*P.S. Рэдакцыя з задавальненьнем надрукуе рэакцыю сп. Мартынава альбо рэктарата, не гаворачы пра Асацыяцыю, на нашую рэпліку. Робім гэтую заўвагу ў сувязі з тым, што непасрэдна са сп. Мартынавым не знаёмыя і адчуваем пэўную няёмкасьць моманту. Таму просім прыняць да ведама нашае шчырае нежаданьне хоць нечым асабіста пакрыўдзіць чалавека. Мы перакананыя, што прарэктар падзяляе наш прафэсійны патас: Ісьціна, як і права выказваць СВАЮ думку, даражэй за ўсё!*

*Рэдакцыя «ТМ»*



